ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 131 (5313)
Чацвер, 15 лістапада 2001 года
Кошт у розніцу — 83 руб.

# Выступление Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко на Втором съезде учителей 3 ноября 2001 года

Уважаемые товарищи! Дорогие коллеги!

Я очень рад, что присутствую сегодня на этом совещании, на этом собрании, на этом съезде и слышу принципиальный, конкретный, деловой разговор. Я всегда требую, чтобы не было никакой заорганизованности, но требую большой организованности. Слушая выступающих с этой трибуны, у меня сложилось впечатление, что все эти выступления кто-то умелой рукой постарался вплести в единую ткань, задуманную для того, чтобы все это прозвучало здесь перед членами Правительства и Президентом. Это важно. Но я понимаю и другое. Наверное, тот человек, который так разумно организовывал сегодняшний съезд, попросил выступающих слишком громко не говорить о тех больных проблемах, о тех болячках, которые присущи нашей школе. Я это прекрасно понимаю, тем более что знаю все эти болячки и проблемы. Вы можете подумать: ну, раз знаешь, почему эти болячки остаются? Знать мало. Хотя, наверное, хорошо знать – необходимо.

Чтобы решить проблему, нужны как субъективные, так и объективные условия. Нас этому учили, да и, наверное, новое учительство это тоже хорошо осознает. Субъективные факторы были и будут всегда, но в наших силах их преодолевать. Объективные факторы, увы, от нас не зависят.

Съезд учителей – событие значимое не только для школы, но и для всего белорусского общества. Вполне закономерно, что сегодня в этом зале рядом с учителями, как я уже сказал, руководство страны, все высшие должностные лица, словом, все те, от кого зависит решение обсуждаемых на съезде вопросов. В открытом, честном разговоре надо объективно оценить, как выполнены намеченные Первым съездом учителей планы, в первую очередь по реформе школы. И я хотел бы с вами поговорить тоже откровенно и искренне, и если я при этом скажу что-то, что вам не понравится, попрошу на меня не обижаться.

Я очень хорошо информирован о содержании вчерашних дискуссий в секциях и постараюсь в своем выступлении дать ответы на поднятые делегатами вопросы. Внимательно слушая вас, я хотел бы отреагировать на четыре вопроса, с моей точки зрения, особенно важные, которые я вычленил для себя из сегодняшних выступлений.

Начну с главного – **роли школы и учителя в построении сильной и процветающей Беларуси.** Почему я хочу сказать об этом? Потому что все, о чем вы говорили, это не проблемы со стороны, – вы основные действующие лица нашего общества, я из этого исхожу всегда, здесь меня никто упрекнуть не может. **Будет сильный учитель в стране, значит, будут в ней воспитанные, образованные, здоровые, способные созидать общество люди.**

Стратегия развития нашей страны на первое пятилетие XXI века поддерживается конституционным большинством белорусского народа.

Скажу больше: **реализация Предвыборной программы Президента отвечает интересам всех граждан Беларуси, независимо от того, как они голосовали на прошедших выборах.**

Если мы выйдем на программные рубежи (а другого выбора у нас нет, мы на них выйдем), это будет благом для всех белорусских граждан: и для "левых", и для "правых", и для "националистов", и для "интернационалистов". **Только равнодушный к судьбе своей Родины, своего народа может противиться превращению Беларуси в сильное и процветающее государство.**

Думаю, в этом зале таких нет. Наши интересы – и президента, и учителя – здесь совпадают.

В Программе социально-экономического развития на пятилетку определены рубежи роста во всех сферах жизни нашей страны. Установлен и общий для всех отраслей, интегрированный показатель благосостояния граждан – средняя заработная плата.

Нравится кому-то или не нравится этот показатель, это международно признанный показатель. Вы люди умные, сведущие, понимаете, что таких показателей может быть много. Да, может, они несовершенны, может, когда-либо экономисты придумают что-то иное. Но пока есть такой показатель. И я его ставлю во главу угла: **средняя заработная плата через пять лет должна быть эквивалентной 250 долларам США в месяц.** Я напоминаю об этом, чтобы зал не шумел, как это было при выступлении министра, когда он назвал цифру 130. Кто-то имеет и 90, а кто-то и 200. Поэтому есть такой средний показатель, учитывающий и максимум, и минимум.

Думаю, вы хорошо понимаете, что это за показатель. Думаю, вы также понимаете, что эту зарплату страна должна заработать, и вы тоже: у нас нет нефти, газа и

**(Продолжение выступления на 2-3 стр.)**

*Печатается по стенограмме с сокращениями.

Сталічная адукацыя

# Прэстыж прыходзіць да руплівых

***Кожны навучальны год сталічная прафтэхадукацыя сустракае інавацыямі. Сёлетні не стаў выключэннем. Адчувальныя перамены адбыліся як у структуры, так і ў змесце ПТА Мінска. За падрабязнасцямі гэтага рэфарматарскага працэсу наш карэспандэнт звярнулася да намесніка начальніка ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама Уладзіміра Савасцені.***

**- Уладзімір Уладзіміравіч, як выглядае сістэма прафтэхадукацыі сталіцы на фоне сённяшніх пераўтварэнняў?**

– Калі выказацца коратка, дык яна – прадуктыўнае і дзейснае звяно адзінай нацыянальнай сістэмы адукацыі, якая працуе даволі зладжана. А ўвогуле ПТА Мінска – гэта 31 навучальная ўстанова, дзе атрымлівае веды больш за 20 тысяч чалавек. Каля 150 прафесій можна асвоіць у сталічных ПТНУ, 83 з якіх з'яўляюцца інтэграванымі. Для апошняга часу характэрна пастаяннае пераўтварэнне структуры вядомых прафесій і адкрыццё новых у адпаведнасці з сітуацыяй на рынку працы. У гэтым навучальным годзе многія ПТВ пачалі ўжо працаваць па пераўтвораных прафесіях. Яскравым вынікам удасканалення структуры прафтэхадукацыі стала трансфармацыя саміх навучальных устаноў. Так, шэсць з васьмі вышэйшых прафесійных вучылішчаў працуюць з гэтага навучальнага года ў новым статусе – прафесійна-тэхнічнага каледжа. Безумоўна, гэткі фактар з'яўляецца перадумовай павышэння ўзроўню і якасці вучэбна-выхаваўчага працэсу ў падобных установах. А як вядома, у такой установе можна атрымаць не толькі рабочую прафесію, а і сярэднюю спецыяльную адукацыю. У Мінску 14 навучальных устаноў ПТА ўваходзяць у ланцуг бесперапыннай адукацыі: ПТНУ-ССНУ-ВНУ, што адкрывае перспектывы ў навучанні для адоранай моладзі.

**- Мажліва, выказаныя вамі фактары сучаснага развіцця сталічнай ПТА з'яўляюцца складнікамі прэстыжу прафтэхустаноў?**

– Адназначна, што яны становуча ўплываюць на прэстыж нашых вучылішчаў. Хаця, я б сказаў, ён даўно ўжо стаў стабільным у моладзі і яе бацькоў.

План прыёму ва ўстановы ПТА ўзрастае з кожным годам на 1,5-2 працэнты. Так, на 2001 навучальны год ён даведзены ў колькасці 9125 чалавек. Загрузка вучылішчаў дасягнула ў сувязі з гэтым максімальных аб'ёмаў. Згодна з прагнозамі, такое становішча захаваецца яшчэ ў бліжэйшыя пару гадоў і будзе залежаць ад росту колькасці выпускнікоў школ горада.

Хачу дадаць, што прэстыж прафтэхустановы – паняцце адноснае. Сёння ён можа быць высокі ў вучылішчаў адной галіны, заўтра – у пашане зусім іншы профіль. Так, сёлета агульны конкурс у ПТНУ склаў каля двух чалавек. А па некаторых прафесіях, у тым ліку банкіра, гандляра, рэферэнта, аўтаслесара, повара, бармена, нават "зашкальваў": пяць-шэсць чалавек на адно месца. Было і такое, што ледзьве маглі ўкамплектаваць вучэбныя групы.

Прычын такога становішча, на маю думку, некалькі. Канешне, самая аб'ектыўная прычына тая, калі прэстыжнасць прафесіі залежыць ад ваганняў на рынку працы, які дыктуе свае ўмовы.

Але многае залежыць і ад змястоўнасці прафарыентацыйнай работы, узроўню арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу, маральна-псіхалагічнага клімату ў калектыве.

**- Вырашэнне гэтых пытанняў немагчыма без поўнай укамплектаванасці навучальных устаноў належнымі кадрамі. На жаль, гэтая праблема застаецца балючай для большасці ПТНУ Мінска. Ці не так?**

– Сапраўды, стан спраў з укамплектаванасцю па-ранейшаму хвалюе. Вакантнымі з'яўляюцца на сённяшні дзень каля 40 працэнтаў пасад майстроў вытворчага навучання і 30 працэнтаў – выкладчыкаў. А калі ўлічыць, што каля 400 педагогаў маюць пенсійны і перадпенсійны ўзрост і практычна адсутнічае папаўненне маладымі спецыялістамі, дык сітуацыя складваецца вельмі няпростая.

Упраўленне адукацыі шукае самыя аптымальныя шляхі, каб зрушыць праблему ў бок яе станоўчага вырашэння. Адным з такіх кірункаў з'яўляецца мэтавая падрыхтоўка майстроў вытворчага навучання з ліку сваіх жа выпускнікоў у ВПВ, тэхнікумах, каледжах па сістэме бесперапыннай адукацыі. Гэта азначае, што прафтэхустанова павінна расціць сама сабе майстроў. І такі прыдатны вопыт ужо ёсць у многіх ПТНУ. Гэта ВПВ бытавога абслугоўвання насельніцтва, прафесійна-тэхнічныя каледжы сферы абслугоўвання, паліграфіі, лёгкай прамысловасці і некаторыя іншыя.

**- Як вядома, якасць прафесійнай падрыхтоўкі навучэнцаў залежыць і ад узроўню матэрыяльна-тэхнічнай базы прафтэхустановы. З-за адсутнасці дзяржаўных сродкаў праблема яе абнаўлення застаецца адкрытай. Якія захады прымаюць у гэтым плане мінскія вучылішчы?**

– На маё меркаванне, рэальным шляхам у выпраўленні становішча з'яўляецца нарошчванне пазабюджэтнай дзейнасці навучальных устаноў. Выпускаюць карысную прадукцыі ўсе сталічныя ПТНУ. Дадатковымі крыніцамі фінансавання становяцца таксама навучанне дарослага насельніцтва па заяўках служб занятасці, платная перападрыхтоўка рабочых кадраў. Так, за мінулы навучальны год пазабюджэтныя даходы склалі 1.873.839 тыс. руб., што раўняецца 17 працэнтам ад выкарыстаных бюджэтных сродкаў. Самых высокіх паказчыкаў тут дасягнулі прафесійна-тэхнічныя каледжы электронікі, чыгуначнага транспарту, ПТВ №№ 9, 24, 63, 221.

Хацелася б сказаць і пра наладжванне сувязей з прадпрыемствамі горада. Як паказвае практыка, без іх навучальным установам цяжка забяспечыць якасць прафесійнай падрыхтоўкі кадраў. Ёсць ужо шмат прыкладаў бязвыплатнай дапамогі вядучых прадпрыемстваў сталіцы нашым ПТНУ. Так, завод імя С.Вавілава для ПТВ № 8 перадаў 47 адзінак абсталявання, вялікую колькасць матэрыялаў, інструментаў. ПТВ № 11 атрымала ад прадпрыемства "КамВоль" 3 швейныя машыны, сотні кілаграмаў пражы. Універсам "Нарач" перадаў прафесійна-тэхнічнаму каледжу гандлю персанальны камп'ютэр і прынтэр.

Цесна супрацоўнічаюць з аднагаліновымі прадпрыемствамі ПТК паліграфіі, сферы абслугоўвання, чыгуначнага транспарту, электронікі, а таксама ПТВ №№ 9, 38, 114, 117, ВПВ будаўнікоў.

У самы бліжэйшы час супрацоўніцтва ПТА з вытворчасцю горада набудзе новыя грані. Ва ўсякім разе мы да гэтага імкнемся.

**- У спісе дэлегатаў з'езда настаўнікаў ад Мінска было нямала прадстаўнікоў прафтэхсістэмы. Сярод іх - дырэктары, выкладчыкі, майстры вытворчага навучання. Без сумнення, гэта з'яўляецца адметным паказчыкам высокай выніковасці прафесійнай адукацыі, аўтарытэту яе педагогаў у грамадстве. А як заваёўваюць аўтарытэт сталічныя навучэнцы?**

– Кожны год розніцца шэрагам гарадскіх і рэспубліканскіх спаборніцтваў, дзе ўдзельнічаюць выхаванцы сталічнай ПТА. Прыемна адзначыць, што вынікі ўдзелу ў гэтых мерапрыемствах – даволі высокія, і нас радуюць.

У нядаўнім рэспубліканскім злёце вынаходнікаў і рацыяналізатараў каманда горада заняла першае месца. Першымі былі сталічныя навучэнцы і на рэспубліканскім конкурсе прафесійнага майстэрства па прафесіі "Слесар шырокага профілю" (ПТВ № 8, 9). "Сярэбраныя" ўзнагароды атрымалі нашы падлеткі ў рэспубліканскім конкурсе па прафесіі "Сталяр-станочнік дрэваапрацоўчых станкоў" (ВПВ будаўнікоў, ПТВ № №25, 63). У гарадскім конкурсе на лепшыя метадычныя матэрыялы па выхаваўчай рабоце прызавыя месцы атрымалі выкладчыкі прафесійна-тэхнічных каледжаў гандлю, паліграфіі і ПТВ №9. У гарадскіх конкурсах вучэбных кабінетаў спецтэхналогіі і майстэрняў па станочных прафесіях лідэрамі сталі ПТВ №№ 8, 9, 71, 94, 117, 133. Прафесійна-тэхнічны каледж электронікі заняў трэцяе месца ў рэспубліканскім конкурсе лепшага педагагічнага вопыту ў галіне правоў чалавека.

Як вядома, у паляпшэнні якасці прафесійнай адукацыі вялікая роля адводзіцца выкладанню прадметаў агульнаадукацыйнага цыкла, якія з'яўляюцца асновай развіцця як інтэлекту, так і агульнай культуры чалавека. Таму найлепшым паказчыкам работы ў гэтым плане сталі высокія вынікі нашых навучэнцаў у прадметных алімпіядах. Вось, напрыклад, прадстаўнікі ПТК чыгуначнага транспарту, сферы абслугоўвання, электронікі занялі першае месца на рэспубліканскай алімпіядзе па фізіцы. А на алімпіядзе такога ж узроўню па матэматыцы навучэнец прафесійна-тэхнічнага каледжа чыгуначнага транспарту заваяваў "золата".

Такуль узнагарод самай высокай пробы яшчэ не многа ў скарбонцы сталічнай прафтэхсістэмы. Але мы імкнемся да гэтага. Галоўнае, каб гэтыя памкненні былі апраўданы.

**Гутарыла Ала КЛЮЙКО.**

## Навіны

### А засекі не апусцеюць

**Сёлета ўборка ўраджаю крыху ссунулася к канцу восені. Лета было вельмі спякотнае, таму агародніна і садавіна пайшлі ў рост са спазненнем.**

Але з надыходам лістапада навакolle паўстала краявідам апусцелых палёў. Руплівыя гаспадары Гродзеншчыны прыбралі ў засекі апошнюю бульбінку. У гэтым ім штогод дапамагаюць навучэнцы прафтэхустаноў вобласці. Дзесяць з гэтых устаноў маюць свае вучэбныя гаспадаркі, і сельскі клопат ім знаёмы.

Слонімскі прафесійны ліцэй сёлета выйшаў на добрую ўраджайнасць па збожжавых культурах. Яна складае 31,4 цэнтнера з гектара. Дзяржаве было прададзена больш паловы ўраджаю, а гэта – каля 400 тон. Плошча, аддадзеная пад бульбу, займае тут каля 20 гектараў. Вырошчваюць збожжавыя і бульбу ўсе вытворчыя гаспадаркі ПТНУ.

Ад іх продажу неблагі прыбытак у вучылішчны бюджэт атрымалі ПТВ №№ 192, 194, 198 і шэраг іншых.

Характэрна і тое, што сельскія гаспадаркі таксама разлічваюцца з прафтэхустановамі за дапамогу ва ўборцы ўраджаю. І гэта не толькі традыцыйная грашовая аплата. Так, калгас "Ніва" за выкананы аб'ём работы звыш аплаты выдзеліў значную суму для набыцця спартыўнага інвентару ПТВ № 194. Калгас "Перамога" дапамагае вучылішчу з набыццём угнаенняў. Цесна кантактуе і ПТВ № 195 з падшэфнымі гаспадаркамі, якія ў гэтым годзе плануюць выдзеліць яму насенне збожжавых, лепшыя гатункі бульбы, а таксама арганічныя ўгнаенні.

Акрамя таго, калгасы дапамагаюць прафтэхустановам у набыцці сельскагаспадарчай тэхнікі, выдзяляюць гаруча-змазачныя матэрыялы, забяспечваюць харчовай прадукцыяй.

Менавіта такія дзелавыя стасункі прадпрыемстваў і ўстаноў сельскагаспадарчай вытворчасці не даюць пуставаць і дзяржаўным засекам.

**Ала КЛЮЙКО.**

### Метадыст - сябра і дарадчык настаўніка

**Развіццё адукацыі - ключавая ідэя ў дзейнасці вучэбна-метадычных кабінетаў аддзелаў адукацыі. Асабліва актывізавалася гэтая работа ў ходзе абласнога агляду метадычных кабінетаў аддзелаў (упраўленняў) па ўкараненні сучасных педагагічных тэхналогій і інавацыйнай дзейнасці, аб'яўленага ўпраўленнем адукацыі Магілёўскага аблвыканкама і Магілёўскім інстытутам павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў.**

Галоўнымі мэтамі агляду з'яўляецца павышэнне эфектыўнасці работы вучэбна-метадычных кабінетаў па метадычным забеспячэнні інавацыйнай дзейнасці педагогаў і ўкараненні сучасных педагагічных тэхналогій, развіццё ініцыятывы і творчасці супрацоўнікаў кабінетаў, прыцягненне ўвагі органаў кіравання да праблем метадычнай службы, рацыянальнага яе выкарыстання ў раёнах, вобласці.

На першым этапе конкурсу было арганізавана ўзаеманаведванне раёнаў. Мы пабывалі ў Горацкім, Чавускім, Дрыбінскім раёнах, а 15 кастрычніка нашы калегі наведалі наш Мсціслаўскі раён. Жывыя ўзаеміны – што можа быць лепшым? Была прадстаўлена сістэма работы з педагагічнымі кадрамі, лепшы педагагічны вопыт, інавацыйная дзейнасць. З'явілася добрая магчымасць падзяліцца з калегамі набалелым, дапамагчы, падказаць, як вырашыць надзённыя праблемы, і, галоўнае, павучыцца адзін у аднаго.

Мы, напрыклад, у горацкіх калег убачылі высокую культуру ў дзейнасці метадыста, намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце (сярэдняя школа № 4 Горак), у дрыбінскіх – арганізацыю і кіраванне метадычнай работай у школе і дашкольнай установе і ўплыў на яе метадычнай службы раёна, у Чавускім раёне – вялікую зацікаўленасць у дзейнасці метадыста кіраўнікоў. Выснова такая, што метадычныя службы працуюць зладжана, амаль адсутнічае цякучасць кадраў. Мы прыцягнулі ўвагу сваіх калег да рэгіянальных курсаў "Мсціслаў. Мсціслаўшчына", арганізацыі метадычнай работы ў раёне праз абнаўленне традыцыйных форм работы з кадрамі.

Аднак, як было адзначана, дзейнасць метадыста сёння ва ўмовах рэфармавання школы застаецца недастаткова акрэсленай. Метадысты маюць шырокае кола абавязкаў пры цяжкіх умовах працы: адсутнічае матэрыяльна-тэхнічная база, кабінеты слаба забяспечаны метадычнай літаратурай. Заработная плата метадыста нізкая (меншая, чым у школьнага педагога), а патрабаванні да яго высокія.

Хацелася б, каб гэтыя і іншыя праблемы метадычных службаў былі заўважаны, каб былі вызначаны роля і месца метадыста, яго прафесійная пазіцыя ў педагагічным працэсе, таму што метадыст сёння, асабліва ў сельскіх раёнах, і арганізуе работу з педкадрамі, і ўкараняе, і кіруе!

У дзейнасці метадыста больш за ўсё зацікаўлены педагог. Метадыст працуе з педагогам, стварае ўмовы для яго развіцця. Педагагічны вопыт з'яўляецца прадметам паўсядзённых турбот метадыста. Таму там, дзе будуць клапаціцца пра метадыста, будуць клапаціцца і пра педагога, і наадварот.

Такая думка была выказана на падагульняльнай сустрэчы ў Мсціславе прадстаўнікоў метадычных службаў трох раёнаў Магілёўскай вобласці. Былі намечаны планы ў развіцці міжраённых сувязяў, вызначаны сумесныя семінары з педагогамі раёнаў, пастаўлены канкрэтныя мэты па напрацоўцы сумеснага педагагічнага вопыту.

**Святлана КІСЯЛЁВА.**

### Вярнуліся ў свой раён

**Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС Брагіншчына Гомельскай вобласці панесла значныя страты ў кадравых спецыялістах для вёскі. Аднак з цягам часу справы сталі пакрысе выпраўляцца.**

Сёлета ў раён прыехала больш 20 настаўнікаў з вышэйшых і сярэдніх педагагічных устаноў. Многія з іх – ураджэнцы Брагіншчыны.

Так, выпускніца Крыўчанскай сярэдняй школы А.Голік настаўнічае ў Дублінскай базавай школе, а выпускніца Малажынскай сярэдняй школы Н.Новік працуе настаўніцай у Крыўчанскай сярэдняй школе. Вучыць дзяцей у Мікулічах В.Лявоненка, а ў Малейках – М.Прышчэпава.

### Стыпендыя вучню

**Яе ўстанавіў кіраўнік сельгаспрадпрыемства "Судкова" Хойніцкага раёна А.Максімовіч.**

Лепшаму вучню Судкоўскай сярэдняй школы, які не толькі вучыцца на выдатна, але і з'яўляецца прыкладам у грамадскім жыцці і ў паводзінах, па заканчэнні кожнай навучальнай чвэрці будзе выплачана стыпендыя ў памеры пяці мінімальных заробкаў з дырэктарскага "фонду".

Акрамя таго, у "Судкова" не першы год практыкуюць і выплаты стыпендый лепшым вучням са сродкаў гаспадаркі. Выдатніку – адзін мінімальны заробак, а хто мае адну-дзве чацвёркі – палову мінімалкі. Гэтыя стыпендыі з'яўляюцца добрым стымулам у вучобе.

### Значная падзея

**Адна з буйнейшых школ Пухавіцкага раёна - Дружненская сярэдняя - праводзіць цыкл мерапрыемстваў, прысвечаных свайму 15-годдзю. І хаця гэта не круглая дата, але для педагагічнага і вучнёўскага калектыву школы - вельмі значная.**

Выстаўкі, конкурсы, урачыстыя лінейкі, насценныя газеты з замалёўкамі, успамінамі, падарункі – вось далёка не поўны пералік форм святкавання імянінніка.

Сёлета ў гэтай школе пачалі працаваць гімназічны клас і чатыры ліцэйскія, з якіх тры – ад політэхнічнай акадэміі і адзін – ад педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.

### Экзамен па беларускай мове

**У комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Бельску-Падляшскім (Польшчы) 103 вучні школ і 108 гімназістаў пісалі пробныя экзамены.**

Іх працы правяраліся настаўнікамі, якія былі вызначаны акруговай экзаменацыйнай камісіяй.

Асветныя ўлады вырашылі, што адна палова вучняў будзе пісаць пробныя тэсты па гуманітарных праблемах, а другая – па матэматычна-прыродазнаўчых.

У час экзаменаў ніякіх асабістых цяжкасцей не было. Вучні выкарысталі прадугледжаныя для іх 120 хвілін і спакойна адказвалі на пытанні.

### Яго памятаюць і шануюць

**У навуковым асяроддзі фізікаў нашай краіны і далёка за яго межамі добра вядома імя Барыса Васільевіча Бокуця.**

Ён, аўтар больш як двухсот навуковых прац, у тым ліку трох манаграфій, атрымаў пасведчанні па 20 вынаходніцтвах. 16 гадоў жыцця Б.Бокуця было аддадзена Гомельскаму дзяржаўнаму універсітэту імя Ф.Скарыны, дзе на пасадзе рэктара ён праявіў выдатныя здольнасці архітэктара навукі, стварыў шырока вядомую аптычную школу, стаў заслужаным дзеячам навукі, акадэмікам, адным з нямногіх у вышэйшай школе Беларусі лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. Сёлета Барысу Васільевічу Бокуцю споўнілася б 75 гадоў.

У знак гэтай юбілейнай даты Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф.Скарыны правялі на базе ГДУ трохдзённую міжнародную навуковую канферэнцыю.

У яе рабоце прынялі ўдзел звыш 100 вучоных Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Фінляндыі, Партугаліі, якія выступілі з дакладамі ці прадставілі тэзісы сваіх дакладаў для апублікавання.

### Незвычайныя камяні

**У Капыльскім краязнаўчым музеі працуе выстава "Незвычайны звычайны камень".**

Арганізаваў яе Дзяржаўны музей прыроды і экалогіі Рэспублікі Беларусь.

У экспазіцыі прадстаўлены магматычныя асадкавыя мінералы і горныя пароды: гематыт, пірыт, разнастайная слюда. Ёсць і глыбінныя пароды – граніт, пегматыт, кімберліт.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

## Паважаныя чытачы!

Пачалася падпіска на перыядычныя выданні на першае паўгоддзе 2002 года.

Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздрук".

Падпісны кошт на паўгоддзе для індывідуальных падпісчыкаў – 8400 рублёў; на квартал – 4200 рублёў; на месяц – 1400 рублёў.

На ведамасныя падпіскі: на паўгоддзе – 22800 рублёў; на квартал – 11400 рублёў; на месяц – 3800 рублёў.

